# Голас Радзімы

№ 52 (2194)
27 снежня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

**Праз некалькі месяцаў споўніцца пяць гадоў з дня чарнобыльскай аварыі. Вынікі яе страшэнныя, не маюць аналагаў на ўсёй планеце. І хаця найбольш пацярпела Беларусь, зараз вядома, што трагедыя закранула ўсё чалавецтва. І змагацца з вынікамі аварыі трэба ўсім разам. Наша рэспубліка не ў стане справіцца з бядой самастойна. Беларусь звярнулася за дапамогай у ААН, да сваіх суайчыннікаў, што жывуць за мяжой, да ўсіх людзей свету. І гэта дапамога прыйшла. «Голас Радзімы» неаднаразова расказваў на сваіх старонках пра дабрачыннасць нашых суайчыннікаў. Няма таго дня, каб у рэспубліку не прыходзілі пасылкі, не прылятаталі самалёты, не прыязджалі аўтамабілі, цэлыя саставы з лякарствамі, медыцынскімі прыборамі для ахвяр Чарнобыля. Асноўны груз ідзе дзецям, якія найбольш пацярпелі ад радыяцыі.**

**Напярэдадні Новага года ў Мінск былі дастаўлены медыкаменты і лякарствы, сабраныя амерыканскай фірмай «Эмеры Кэрыс». Яны адпраўлены ў лячэбныя ўстановы рэспублікі. Медыцынскае абсталяванне паступіла і ад аўстрыйскага таварыства «Хільфверг». Яно было ўручана Рэспубліканскаму дзіцячаму гематалагічнаму цэнтру.**







● Ідзе выгрузка медыкаментаў, якія паступілі з-за мяжы.

● Віцэ-прэзідэнт фірмы «Эмеры Кэрыс» Пітэр КІЦІНГ уручае падарункі дзецям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

● Старшыня аўстрыйскага таварыства сацыяльнай дапамогі «Хільфверг» Эрых ФІДЭСЭР уручае медыцынскае абсталяванне дзіцячаму гематалагічнаму цэнтру.

Фота Г. СЯМЁНАВА і А. ТАЛОЧКІ.

ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР

# ДОБРАСУСЕДСКІЯ АДНОСІНЫ

Дагавор паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю, падпісаны 18 снежня ў Маскве, прадугледжвае значнае расшырэнне раўнапраўнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва дзвюх суверэнных рэспублік у палітыцы, эканоміцы, экалогіі, ахове здароўя, навуцы, тэхніцы, культуры і гандлі.

Па пытанню аб грамадзянстве дагаворам прадугледжаны «нулявы варыянт», гэта значыць добраахвотны выбар грамадзянства жыхаром любой з гэтых рэспублік.

У прэамбуле, у прыватнасці, гаворыцца, што бакі, якія падпісалі дакумент, улічваюць агульнасць культуры сваіх народаў і гістарычна ўзнікшыя паміж імі сувязі. Выказваюцца намеры развіваць адносіны на аснове прынцыпаў раўнапраўя і неўмяшання ва ўнутраныя справы адзін аднаго, усямерна садзейнічаць стварэнню і развіццю на добраахвотнай аснове абноўленага Саюза суверэнных дзяржаў.

Адкрываючы цырымонію падпісання дагавора, Старшыня Вярхоўнага Савета РСФСР Б. Ельцын сказаў, што дакумент не супярэчыць міжнародным прававым нормам. Ён носіць не толькі палітычны і эканамічны характар, але закранае і міжнацыянальныя адносіны, прававыя і іншыя пытанні.

Тыя добрасуседскія адносіны, якія складваюцца паміж нашымі рэспублікамі, пацвярджаюцца сёння на новай аснове, заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей. І правільна, што мы прытрымліваемся міжнародных норм, якія дзейнічаюць цяпер.

Закранаючы пытанне аб граніцах, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі падкрэсліў, што калі і існуюць нейкія пагранічныя знакі, то яны створаны не для жыхароў Расіі і Беларусі, а з-за той спекуляцыі на міжнацыянальных адносінах, якая, на жаль, пакуль ёсць.

Пасля падпісання дагавора Б. Ельцын сказаў, што гэты дакумент, падпісаны ў складаны для краіны час, павінен надаць большую ўпэўненасць людзям.

Гаворачы аб трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, кіраўнік расійскага парламента падкрэсліў, што для вырашэння гэтай праблемы неабходна самае цеснае супрацоўніцтва рэспублік.

СВЕДЧЫЦЬ СТАТЫСТЫКА

# ДАГАНЯЕМ АМЕРЫКУ




Колькасць зарэгістраваных злачынстваў у нашай краіне за тры кварталы гэтага года дасягнула двухмільённага рубяжу. Кожнае сёмае з іх цяжкае. Гэтыя несуцяшальныя лічбы прыводзіць у сваёй справаздачы аб стане злачыннасці Дзяржаўны камітэт па статыстыцы СССР.

Паводле даных Дзяржкамстата, практычна ва ўсіх саюзных рэспубліках назіраецца рост правапарушэнняў. Усё часцей ад рук забойцаў гінуць людзі. Усяго за гэты перыяд учынена 18 тысяч наўмысных забойстваў і замахаў на жыццё, 80 тысяч грабяжоў і 17,5 тысячы разбойных нападзенняў. Практыкай стаў крадзеж зброі і боепрыпасаў. Не змяншаюцца і крадзяжы дзяржаўнай і грамадскай маёмасці. Іх па краіне зарэгістравана 265 тысяч. Хоць наша злачыннасць яшчэ не дасягнула заходніх, напрыклад, амерыканскіх «стандартаў», карціна атрымліваецца бязрадасная. Усе паказчыкі растуць, і тэндэнцый да іх зніжэння ці хоць бы да стабілізацыі абстаноўкі пакуль што не назіраецца. Злачыннасць яўна перайшла ў наступленне. Ці змогуць яе націску надзейна процістаяць праваахоўныя органы, пакажа час.

На карце-схеме адлюстраваны ўзровень злачыннасці ў саюзных рэспубліках, колькасць усіх зарэгістраваных правапарушэнняў у разліку на 100 тысяч жыхароў. Сярэдні ўзровень злачыннасці ў СССР за гэты перыяд — 679 злачынстваў на 100 тысяч жыхароў.

КАНВЕРСІЯ



**Курс на асваенне тэхнічна складаных тавараў народнага спажывання ўзяты на наваполацкім заводзе «Вымяральнік». Такі напрамак у дзейнасці прадпрыемства выбраны не выпадкова. Завод неаднаразова выконваў заказы абароннай прамысловасці, а таму мае і ўмелыя кадры, і добрае абсталяванне.**

**Вырабы «Вымяральніка» пакупніку добра вядомы. Гэта, перш за ўсё, магнітафон «Карат». У наступным годзе з канвеера сыдзе яго новая мадэль. Ён стане больш прыгожым і надзейным.**

**Папулярны ў пакупнікоў таксама недарагі прайгравальнік касет «Лота». Хутка ён будзе аснашчаны стэрэафанічным прыстасаваннем і стане камплектавацца блокам сілкавання. Рыхтуюцца да выпуску і іншыя навінкі бытавой тэхнікі. У будучым годзе «Вымяральнік» мяркуе вырабіць тавараў народнага спажывання ўдвая больш, чым у гэтым.**

**НА ЗДЫМКУ: распрацоўшчыкі навінак тавараў народнага спажывання Юрый ПАДГОРНАЎ (злева) і і нер-канструктар Андрэй ЧАРАЎКО.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# ЗАПРАШЭННЕ З ВОСТРАВА ЗІЛЬТ

У Якімаўскую Слабаду, вёску ў Светлагорскім раёне, прыйшло персанальнае запрашэнне для школьніка Грышы Зелянка. Улады заходнегерманскага горада Венігштат, што на востраве Зільт у Паўночным моры, запрашаюць хлопчыка на лячэнне і бяруць на сябе ўсе расходы. Суправаджаць у гэтай паездцы Грышу будзе маці — работніца мясцовага дзіцячага сада.

Такая акцыя міласэрнасці стала магчымай дзякуючы дружалюбным сувязям. У час аднаго з візітаў у Светлагорск германская дэлегацыя і пабывала ў сям'і М. Зелянок. Даведаўшыся, што яе сыну Грышу патрэбна сур'ёзная медыцынская дапамога, прапанавалі свае паслугі.

«ЗАЛАТАЯ» ПРАДУКЦЫЯ

# ЛАЗА — НА ЭКСПАРТ

Прыбярэжная лаза, якая блыталася ўсё жыццё пад нагамі касцоў і пастухоў, нечакана аказалася... залатой. Дакладней — здольнай прыносіць валюту.

З нядаўніх часоў саўгас «Карпаўка», што ў Лоеўскім раёне, адпраўляў лазу аднаму з маскоўскіх кааператываў. Але дырэктар Ігар Барысаў праведаў, што сталічныя прадпрымальнікі тут жа перапраўляюць тавар у Кітайскую Народную Рэспубліку, атрымліваючы ладны прыварак. І калі ў Гомель прыбыла кітайская дэлегацыя на чале з дырэктарам кампаніі «Хуа Пэй» Гао Веймінем, вяскоўцы вырашылі весці справы напрамую.

Дагаварыліся арганізаваць сумесную вытворчасць мэблі з лазы, якая карыстаецца попытам не толькі ў КНР, але і на сусветным рынку. А нам (дарэчы, пры велізарным мэблевым дэфіцыце) такі тавар практычна зусім невядомы. Ужо ў бліжэйшыя дні ў гаспадарцы чакаюць прыезду кітайскіх спецыялістаў, якія дапамогуць наладзіць справу.

НАВІНКА НА КАНВЕЕРЫ



**Добрымі памочнікамі работнікаў камунальнай гаспадаркі стануць машыны, вытворчасць якіх пачаў асіповіцкі завод «Рэмспецкамунмаш». Галоўная вартасць навінак — зменны кузаў. Пакуль іх два: звычная нам ёмістасць для вады, што выкарыстоўваецца пры паліўцы вуліц, і кантэйнер для цвёрдабытавых адходаў.**

**Памяняць у машыне кузаў нескладана. Дзякуючы спецыяльнай сістэме, вялізная ёмістасць лёгка апускаецца на зямлю і паднімаецца на шасі аўтамабіля. Зменныя кузавы, якія пачынае выбляць прадпрыемства, дазволяць больш эфектыўна выкарыстоўваць тэхніку, паскораць транспартныя аперацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: машына з кантэйнерам для цвёрдабытавых адходаў у момант пагрузкі.**

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# БЕЛАРУСЬ—ГЭТА ЧАРНОБЫЛЬ

Самым важным вынікам работы дэлегацыі Беларускай ССР на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН можна лічыць прыняцце кансенсусам, без галасавання рэзалюцыі аб міжнародным супрацоўніцтве ў сувязі з трагічнымі для нашага народа вынікамі чарнобыльскай катастрофы. Сааўтарамі яе сталі 120 са 159 дзяржаў—членаў ААН.

— Наша дэлегацыя выканала ганаровае даручэнне сусветнай супольнасці — менавіта Беларусь афіцыйна прадстаўляла рэзалюцыю на сесіі ААН.

Так заявіў на прэс-канферэнцыі для журналістаў міністр замежных спраў БССР Пётр Краўчанка. Гэты ўрачысты момант быў той рысай, якая падвяла вынік нялёгкай работы нашай дэлегацыі, што папярэднічала прыняццю такога важнага для нас дакумента.

Словы «Беларуская Рэспубліка» вельмі часта гучалі гэтай восенню ў гмаху ААН, часцей за ўсё з вуснаў нашых прадстаўнікоў: у кожным камітэце ААН, у выступленні кожнага беларускага дэлегата так ці інакш закранлася чарнобыльская тэма. І гэта, відаць, не было лішнім, таму што многія пра Чарнобыль і маштабы катастрофы проста не ведалі, а Беларусь для некаторых да гэтага часу — terra incoqnita, якая знаходзіцца недзе ў Расіі.

Як падкрэсліваўся на прэс-канферэнцыі, нягледзячы на немалыя цяжкасці і перашкоды, розныя падыходы ў ацэнцы сітуацыі пасля чарнобыльскай катастрофы, стану і маштабаў, тэмпаў і перспектыў развіцця адпаведнага міжнароднага супрацоўніцтва, удалося дамагчыся аб'ектыўнага адлюстравання той сітуацыі, якая склалася цяпер у Беларусі, узмацніць настрой на карысць беспасрэднага супрацоўніцтва з нашай рэспублікай і аказання ўсебаковай дапамогі беларускаму народу.

— За апошнія 20—30 гадоў найбольш канкрэтная рэзалюцыя,— падкрэсліў П. Краўчанка.— Большасць рэзалюцый ААН носіць крыху абстрактны характар. А наша дэлегацыя змагла дабіцца стварэння сістэмы добраахвотных узносаў, утварэння паста спецыяльнага каардынатара на ўзроўні намесніка Генеральнага сакратара ААН.

Цяпер Беларусь называецца першай у ліку рэгіёнаў, якія найбольш пацярпелі. Праз год, на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, павінна разглядацца і чарнобыльская праблематыка.

Прыкра, але толькі праз наша гора Беларусь становіцца вядомай у свеце, выклікае спагаду і гатоўнасць дапамагчы нам. Шчыра адгукнуліся на нашу бяду вучоныя медыцынскага факультэта Пітсбургскага універсітэта. З імі ўжо ёсць дамоўленасць аб абмене спецыялістамі. Пітсбургскі універсітэт запрашае на стажыроўку з поўным забеспячэннем і бясплатным навучаннем беларускіх спецыялістаў па тых праблемах, якія нас найбольш трывожаць. Паедуць спецыялісты па эндакрыналогіі, імуналогіі, гематалогіі і педыятрыі.

Усяляе надзею прапанова кіраўніцтва універсітэта стварыць амерыкана-беларускую арганізацыю. Яна магла б пабудаваць у нас цэнтр здароўя дзіцяці, шпіталь для дзяцей. Такая арганізацыя прасцей і лягчэй вырашала б многія праблемы, ад якіх залежыць медыцынская дапамога рэспубліцы.

Выказаў гатоўнасць дапамагчы нам і Інстытут дынамікі дзелавых сувязей Усход—Захад пры Нью-Йоркскім універсітэце. Ён прапанаваў бясплатную стажыроўку 10 спецыялістаў-гематолагаў з Беларусі.

Прыведзеныя факты сведчаць хіба аб тым, што чалавецтва — адна вялікая сям'я. І гэтая сям'я, уведаўшы, са спазненнем на пяць гадоў, пра маштабы нацыянальнай трагедыі беларусаў, не застанецца абыякавай да тых, каго накрыла змрочная ноч Чарнобыля. Больш за ўсё нам трэба баяцца ўласнай абыякавасці.

Адна з галоўных перашкод на шляху міласэрнасці, які з такой цяжкасцю пракладвала беларуская дэлегацыя на сесіі ААН, стала дастаўка ў рэспубліку ахвяраванняў — лекаў, прэпаратаў, вітамінаў, інструментаў і да т. п. Беларусь не мае сваёй нацыянальнай авіякампаніі, а Аэрафлот...

Хто-хто, а Беларускае таварыства «Радзіма» добра ўжо ведае, якія «паслугі» аказвае Аэрафлот. Колькі ўжо было выпадкаў: прыходзяць пасылкі са шпрыцамі ці лекамі ад нашых суайчыннікаў, скажам з Афрыкі, а «родная» савецкая авіякампанія патрабуе выкуп за перавозку. І таварыства вымушана плаціць, бо ніякія аргументы і заклікі мець сэрца не дапамагаюць. У Аэрафлота адно ў галаве — самафінансаванне. Парадаксальна, што іншаземныя авіякампаніі, напрыклад Пан-Амерыкэн, перавозяць грузы для людзей, якія пацярпелі ад радыяцыі, бясплатна, толькі скажы слова — Чарнобыль. А наш Аэрафлот, дзе ўсё, здавалася б, павінна быць прасякнута духам дружбы народаў, не пройме нават дзіцячая сляза.

Міністр замежных спраў бачыць адзінае выйсце — стварыць прамы мост Мінск — Нью-Йорк. Трэба арганізаваць сваю авіякампанію, і пасажырскую, і транспартную. Ёсць ужо і дзелавыя людзі, якія гатовы купіць напачатку 10 авіялайнераў ІЛ-86.

Мы, як заўсёды, познімся, бо Украіна, напрыклад, паветраны мост Кіеў — Нью-Йорк адкрывае з 1 красавіка будучага года. Ды лепш хоць позна мець сваё, чым заўсёды стаяць з працягнутай рукой.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# ДА РЫНКУ НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ

# ЦІ ТЫМ ШЛЯХАМ?

**«Асноўныя напрамкі стабілізацыі народнай гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі» пры ўсёй іх прагрэсіўнасці маюць, на мой погляд, вельмі істотны недахоп: у іх не ставіцца і не вырашаецца праблема ператварэння народа ў рэальнага ўласніка ўсяго таго, што ім атрымана ў спадчыну ад продкаў і што створана ўласнай працай. І не абстрактна, а так, каб кожны непасрэдна, а не праз дзяржаву валодаў уласнасцю.**

У «Асноўных напрамках» праводзіцца думка, быццам усім прадастаўляюцца роўныя шанцы. Прычым дзяржава яўна не настроена бясплатна раздаваць сваю маёмасць. Як гаворыць адзін з аўтараў дакумента акадэмік С. Шаталін, «уласнасць неабходна зарабіць». Між тым, па-першае, уся гэтая маёмасць ужо даўно зароблена народам. Па-другое, аб якіх роўных шанцах можна гаварыць, калі купіць могуць толькі тыя, у каго ёсць дасць гарантыі, што гэтая гіганцкая маса не стане тым грунтам, на якім вырасце «савецкі фашызм». Гавораць, як гукнеш, так і адгукнецца. Пры гэтым не варта забываць аб спадчыне сталінізму ў псіхалогіі мас.

Адсюль — вывад: накласці сучасны цывілізаваны капіталізм на цяперашнюю савецкую рэальнасць наўрад ці ўдасца. Таму што для гэтага няма адпаведнай базы — названых дзвюх трэціх грамадства, на якіх трымаюцца заходнія цывілізацыі. Стварыць іх немагчыма інакш, як прайшоўшы этап першапачатковага накаплення капіталу (з усімі сацыяльнымі катаклізмамі , якія вынікаюць адсюль). Другі раз увайсці ў тую ж «раку», з якой Расія так няўдала выйшла ў кастрычніку 1917 года, не ўдасца.

**Нам патрэбна грамадства сацыяльнай справядлівасці, у якім людзі былі б салідарныя адзін з адным, жылі б без зай-**

на што купіць. Ці многа ў нас такіх людзей? І хто яны ў большасці сваёй?

Вядома, лягчэй за ўсё было б стварыць па ўзору ЗША ці любой іншай краіны Захаду народныя прадпрыемствы на базе ўласнасці, якія выкуплены работнікамі ў гаспадароў і, значыць, належаць тым, хто на іх працуе. Але гэта стала б магчыма, калі ў краіне большасць насельніцтва была б матэрыяльна заможнай. Але ж гэтага няма! Сёння ў сярэднім на кожнага, хто захоўвае грошы ў Ашчадным банку СССР, прыпадае прыкладна 1 500 рублёў. Што можна на гэтыя грошы ў час інфляцыі купіць?..

Самая першая задача сапраўднага рэфарматара сёння — не рынак, нават — не нарошчванне вытворчасці прадметаў шырокага спажывання, а вызваленне чалавека ад «запрыгоньвання» яго дзяржаўнай уласнасцю, пераўтварэнне наёмнага работніка ў грамадзяніна-ўласніка сваёй долі ў нацыянальным здабытку, што ў корані змяніла б яго самаадчуванне, вывела б яго са стану абыякавасці да ўсяго, што адбываецца. І, нарэшце, зрабіла б яго ўдзельнікам рынку. Бо без масавага ўласніка няма і рынку. Пры гэтым удзел кожнага на рынку працы таксама насіў бы іншы характар: ён прадаваў бы сваю працу не толькі як работнік, але і як гаспадар, капітал якога ўліваўся б у тую вытворчасць, куды ён ідзе.

Ці значыць сказанае вышэй адмаўленне іншых форм уласнасці — дзяржаўнай, калектыўнай (акцыянернай) і прыватнай? Не! Відаць, жыццё запатрабуе наяўнасці ўсіх форм. Асобна скажу аб прыватным прадпрымальніцтве, асабліва ў сервісе і дробнай вытворчасці.

Па-мойму, клас прыватных уласнікаў трэба фарміраваць не шляхам распродажу грамадскага дабра, а працай, прадпрымальнасцю саміх грамадзян, якія маюць пэўныя зберажэнні і здольнасць весці ўласную гаспадарку. У прыватным прадпрымальніцтве цяпер патрэба яшчэ і таму, што толькі яно здольнае паглынуць сённяшнюю «ценявую» эканоміку, сродкі «ценевікоў» (не будзем высвятляць, адкуль яны, таму што гэта абсалютна бесперспектыўны занятак).

**Усе пераходныя праграмы, якія прыняты і абмяркоўваюцца ў Вярхоўных Саветах краіны, напрыклад «500 дзён» Расіі, праследуюць не выказаную адкрыта мэту фарміравання гаранта ўстойлівасці, стабільнасці грамадства праз стварэнне ў ім сярэдняга класа, які складае ў краінах заходняй цывілізацыі больш палавіны насельніцтва, а разам з буйнымі ўласнікамі—дзве трэці яго. З распродажам дзяржаўнай уласнасці і ўвядзеннем рынку ў перспектыве плануецца сфарміраваць названыя вышэй дзве трэці, якія будуць багацець, а астатнія, натуральна, гібець у галечы.**

Якія ж перспектывы ў гэтай трэці? Калі дзяржава, яе інстытуты, грамадства ў цэлым будуць пазіраць на яе як на непазбежнае зло, ад якога лепш адкупіцца «сацыяльнай дапамогай», чым паспрабаваць вывесці «ў людзі», то праслойка «бедных» застанецца такой ва ўсе вякі. Але справа не толькі ў гэтым. Менавіта гэта «праслойка», калі здарыцца якая бяда ў эканоміцы, тут жа папоўніцца, пагражаючы перарасці ў палавіну, а то і тры чвэрці насельніцтва краіны. Што тады? Хто здрасці адзін да аднога, садзейнічаючы росту дабрабыту ўсіх. Для вырашэння гэтай задачы патрэбны паслядоўны пераход ад павальнага безуласніцтва народа (ва ўмовах дзяржаўнай манаполіі на нацыянальную маёмасць) да вырашэння праблемы ператварэння кожнага грамадзяніна ва ўласніка грамадскага багацця і на гэтай аснове — мірнага суіснавання ўсіх відаў уласнасці ў іх узаемапрымальным узаемадзеянні. Галоўны сэнс прыватызацыі эканомікі менавіта ў гэтым і заключаецца. І ні ў чым іншым.

Яна можа быць рэалізавана бязвыплатным надзяленнем кожнага грамадзяніна яго доляй у нацыянальным багацці краіны, аформленай у выглядзе акцый. Пры гэтым даход кожнага будзе складвацца з дзвюх крыніц: працоўнага ўкладу і дывідэнда, які налічвае на яго долю ўласнасці, аб'яднанай у акцыянерным (кааператыўным, дз... зўным) прадпрыемстве (арганізац... установе). Доля сумеснай уласнасці, якая з'яўляецца часткай нацыянальнага набытку і дасталася кожнаму ў якасці агульнай спадчыны ад продкаў, якая ў першапачатковай суме не адчужаецца нікім, можа брацца пры жаданні толькі ім... мім нарошчаная яе частка (у прац... працоўнай дзейнасці).

Такім шляхам мы дасягаем: па-першае, устанаўлення для ўсіх грамадзян аднолькавых крыніц дабрабыту, а значыць, і ліквідацыі расколу грамадства на кіруемы і кіруючы класы, ліквідацыі эканамічнай бюракратыі, на ўтрыманні ў якой знаходзіцца ўся астатняя (чыста апаратная) бюракратыя; па-другое, выраўноўваючы колькасць матэрыяльных даброт, што атрымліваюцца ўсімі ад грамадскага багацця, якое сёння размяркоўваецца ў большасці сваёй несправядліва, пакідаючы адрозненні, якія вынікаюць з колькасці і якасці працоўнага ўкладу; па-трэцяе, фарміравання праз асабісты інтарэс групавога інтарэсу—адзінай перавагі сацыялістычнай арганізацыі працы перад капіталістычнай — у сваю чаргу працуючага на грамадскі інтарэс (праз зацікаўленасць кожнага ў павелічэнні сваёй долі ў нацыянальным набытку, гэта значыць у расшыраным узнаўленні). Успомнім, перашкодай для сацыялістаў усіх часоў была і ёсць праблема замены прымусу да працы асабістым інтарэсам, які спалучаецца з грамадскім. І, нарэшце, чацвёртае — ліквідацыі катэгорыі наёмнай рабочай сілы, якая з'яўляецца прымусовай формай далучэння людзей да працы. У матэрыяльнай і духоўнай сферах кааперыруецца свабодная праца свабодных уласнікаў. Чалавек перастае быць таварам. Пры гэтым ствараецца аснова для пераадолення ўраўняльнай псіхалогіі ў свядомасці мас — сёння практычна неадольнай перашкоды на шляху да прагрэсу.

Ажыццявіўшы раздзяржаўленне ці прыватызацыю такім чынам, можна стварыць не слаі і праслойкі ўласнікаў, а цэлы народ-уласнік, які з часам здольны ператварыцца ў той самы сярэдні клас Захаду. З той, аднак, істотнай розніцай, што ні злева, ні справа ў яго не будзе класаў, якія супрацьстаяць адзін аднаму.

**Агдас БУРГАНАЎ,**
**прафесар, доктар гістарычных навук.**

# КРЫЗІС І АРМІЯ

— Ваенныя не могуць не адыгрываць важнай ролі ў дзяржаве, асабліва ў такой, як наша, з яе гісторыяй і традыцыямі. Гэта зразумела. Але я катэгарычна адхіляю нават думку аб магчымасці выйсці з крызісу, абапіраючыся на армію, — заявіў Барыс Ельцын, выступаючы ў Ваеннай акадэміі імя Ф. Э. Дзяржынскага ў сувязі з яе 170-годдзем.

Для пацвярджэння гэтага Б. Ельцын выказаў наступныя аргументы: армія не вырашыць эканамічных праблем. А сёння эканоміка — галоўнае. Наадварот, такое развіццё падзей пазбавіць краіну апошняга шанца на пазітыўныя дзеянні, шанца абысціся без грамадзянскай вайны. Тыя, хто ведае, як вывесці краіну з крызісу, і, галоўнае, можа гэта зрабіць, будуць зняты.

Далей Старшыня Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі падкрэсліў, што ў кожнага канфлікта ёсць свая логіка развіцця. Калі ў бурлівае савецкае грамадства ўвесці армію як дзеючы фактар — канфрантацыя ўзмоцніцца ў многа разоў і гэта прывядзе грамадства да катастрофы.

На думку Б. Ельцына, заклікі да дыктатуры арміі гучаць з боку толькі нязначнай часткі грамадства і невялікай групы авантурыстаў у самой арміі. Умяшанне арміі ва ўнутрыпалітычныя справы ўзарве яе саму знутры, яна расколецца на групоўкі, якія будуць змагацца адна супраць адной. Жорсткая палітычная барацьба (а сёння яна тым не менш застаецца мірнай) можа перарасці ва ўзброеную. Улічваючы, што наша краіна — ядзерная дзяржава, такі варыянт развіцця створыць пагрозу не толькі Савецкаму Саюзу, але і ўсяму свету.

*ЭКАЛОГІЯ*





**Цэментавым Чарнобылем нярэдка называюць свой родны горад жыхары Крычава. Мала таго, што аб'яднанне «Крычаўцэменташыфер» штодзённа абрушвае на іх і навакольную прыроду дзесяткі тон вытворчага пылу, яно стварыла ля ракі Сож звалку. Сюды выкідваюць рэшткі шыферу, якія можна было б пусціць у справу, напрыклад, прадаваць насельніцтву.**

**Немалую порцыю рэчываў, што атручваюць паветра, атрымліваюць крычаўцы і ад асфальтабетоннага завода. Ён знаходзіцца за рысай горада, каля вёскі Міхеевічы, але дым і пах часам бывае такі, што і ў Крычаве няма чым дыхаць.**

**За абыякавыя адносіны да экалогіі аднойчы абавязкова давядзецца расплачвацца. Прычым, вопыт паказвае, вельмі высокай цаной. На жаль, гэта разумеюць не ўсе.**

**НА ЗДЫМКАХ: гэтая самаробная пераправа, якую ўзвяло на Сожы аб'яднанне, перакрыла рыбе дарогу ў месцы нерасцілішчаў; дыміць асфальтабетонны завод...**

**Фота В. БЫСАВА.**

# КВАТЭРУ АХОЎВАЕ... ТЭЛЕФОН

Знешне тэлефонны апарат, які распрацавалі спецыялісты мінскага цэнтра навукова-тэхнічнай творчасці моладзі «Спектр», мала чым адрозніваецца ад сваіх «сабратоў», хіба што крыху буйнейшы. Сенсорная канструкцыя для выкліку абанента, лічбавае табло на вадкіх крышталях надаюць яму сучасны выгляд. Аднак галоўная асаблівасць — у незвычайных функцыях навінкі, якая не мае яшчэ аналагаў у СССР.

Скажам, вам нехта звоніць. На электронным табло з'явіцца тэлефонны нумар абанента, і вы можаце загадзя падрыхтавацца да размовы. А калі падключыць да тэлефона спецыяльныя датчыкі, устаноўленыя, напрыклад, на ўваходных дзвярах кватэры, то тэлефон ператворыцца... у вартаўніка. Як толькі дзверы адчыняцца, папярэдне занесенае ў памяць апарата паведамленне будзе перададзена па любому закадзіраванаму нумару: у бліжэйшы аддзел міліцыі ці да вас на працу і г.д. Акрамя таго, тэлефонны памочнік праінфармуе абанента на другім канцы провада, калі вас няма дома, запіша на магнітную стужку інфармацыю, якую той захоча перадаць, разбудзіць гаспадара ў патрэбны час, знойдзе ў сваёй «памяці» патрэбны вам нумар тэлефона і г.д. Прычым ніякіх перадзелак звычайнай тэлефоннай сеткі не патрабуецца.

— Пры распрацоўцы навінкі мы арыентаваліся на айчынныя камплектуючыя вырабы і матэрыялы, — тлумачыць кіраўнік тэмы Ігар Цыркуноў. — Мяркуем, што прыкладна праз год будзе выраблена першая партыя шматфункцыянальных тэлефонных апаратаў.

**У. БІБІКАЎ.**

## З «НЬЮ-ЙОРКСКАГА ДЗЁННІКА»

# СУСТРЭЧЫ З АМЕРЫКАНСКІМІ БЕЛАРУСАМІ

Ён пагадзіўся, заапекаваўся фондамі. Але тут фашысты пачалі вывозіць асобныя калекцыі. Найперш кінуліся ім у вочы гарматы — 16 з нясвіжскіх збораў Радзівілаў і тры з ранейшай мінскай калекцыі. Адзін з немцаў папярэдзіў: возьмуць іх на пераплаўку. Тады Антон Шукялайць пайшоў да свайго земляка начальніка «чорнай» паліцыі Юльяна Саковіча і папрасіў грошай, каб, наняўшы людзей, хоць зрабіць апісанне. Той даў грошы, і падрабязнае апісанне было складзена. Кажуць, аднак, што немцы не паспелі пераплавіць гарматы, і цяпер яны знаходзяцца, па адной версіі, у Польшчы, па другой — у Германіі.

Наступнай вывезенай калекцыяй быў збор карцін, намаляваных мастакамі яўрэйскага паходжання — Пэнам, Шагалам, Крунерам (партрэт Скарыны) і іншымі. Немцы зноў папярэдзілі, а Шукялайць зноў кінуўся да Саковіча, каб той дапамог у складанні навуковага вопісу, узяў дзеля гэтага з гета двух гебрэяў. Але Саковіч адказаў, што ён не кантралюе гета. Тады звярнуліся да начальніка мінскага СД. На нейкі час з гета выпусцілі двух спецыялістаў, і яны падрабязна апісалі ўсе творы (Антон Шукялайць гатовы зрабіць для мяне копію гэтага апісання, якое захавалася ў Лондане). Затым палотны былі вывезены ў Аўстрыю, дзе пры Інстытуце гебраістыкі меркавалася адчыніць музей мастацтва. А паколькі гэтая ўстанова, здаецца, захавалася (у трансфармаваным выглядзе), то ёсць магчымасць вярнуць калекцыю назад паводле яе апісання.

Асноўная ж частка экспанатаў Мінскага музея, працягваў мой субяседнік, была вывезена ў чэрвені 1944 года ў гарадок Гехштэт над Дунаем пад кіраўніцтвам гісторыка мастацтва Гаўпт, якая працавала ў ведамстве Розенберга (яно займалася музеямі, бібліятэкамі, архівамі). Тады ў старажытны замак былі звезены скарбы не толькі з Беларусі, але і з Украіны, Смаленшчыны. Апынуўшыся ў Германіі, туды скіраваўся і Антон Шукялайць. У Гехштэце ён сустрэў фраў Гаўпт, спытаў яе, ці тут мінскія зборы, ці нельга прыладзіцца да іх на работу. «Усё тут, — адказала фраў, — але прыняць вас не можам, бо не той час». Тады спадар Антон наняўся ля Гехштэта да баўэра. Калі прыйшлі амерыканцы, з'явіўся ў замак зноў, адрэкамендаваўся, хто ён. Але саюзнікі сказалі, што сюды за вывезенымі зборамі павінна з'явіцца спецыяльная савецкая камісія. Так яно і выйшла. Але, як потым Антону Шукялайцю расказаў украінскі прафесар Курынны, камісія складалася з непрафесіяналаў. Грузілі яны экспанаты на машыны без разбору, многае пагублялі.

— Сярод вывезеных экспанатаў, — сказаў спадар Антон,— найбольшую каштоўнасць мелі тры абразы. Два з іх, у тым ліку «Нараджэнне Божай Маці», якое цяпер часта рэпрадукуецца, вярнуліся ў Мінск з дапамогай лужыцкага серба Нетуша, якога я папрасіў заапекавацца абразамі. Трэці ж, ці не найбольш каштоўны пад назвай «Страшны суд» ці «Апошні суд», недзе загубіўся. Намаляваў яго невядомы мастак магілёўскай школы. Паколькі апісанне гэтага абраза было ў адным даваенным каталогу, мы сёння ведаем, што шукаць. Але вось дзе? Можа што ўспомніла б археолаг з Кіева Корбіш, якой удалося пры гітлераўцах уладкавацца ў Гехштэцкі замак... Калі яна ёсць у жывых, вядома.

Тут нашу гаворку перапынілі негры, якія, выжыўшы скрыпача, пачалі каля помніка Андэрсену паказваць, таксама пад музыку, але ўжо больш гучную, розныя фокусы-покусы. Нам давялося перанесціся ў іншы закутак парку, над штучнае возера, па якому чарадой плавалі забаўкі-яхты. І яшчэ з гадзіну гаманілі пра нашчадкаў Францішка Багушэвіча, якія дужа цураліся беларускасці свайго продка (Шукялайць сутыкаўся з імі ў Жупранах і Ашмянах), пра ашмянскага сацыяліста Аляксандра Барановіча, у хаце якога мясцовыя гімназісты праходзілі школу палітычнай барацьбы, пра дзейнасць у гады акупацыі на Лідчыне і Ашмяншчыне польскай Арміі Краёвай, што прывяла да знішчэння многіх беларусаў.

Пад вечар мы наведалі ў шпіталі-прытулку беларускага літаратуразнаўцу і публіцыста, у нядаўнім часе супрацоўніка радыёстанцыі «Голас Амерыкі» Антона Адамовіча, з якім я сустракаўся ў Лондане яшчэ ў 1982 годзе. Тут мы прадоўжылі старыя дыскусіі, распачалі новыя. Зачытаў хвораму абзацы пра яго ў кнізе Барыса Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...», якую прывёз з сабой: глядзіце, ужо і пра вас пішам, што раней было проста немагчыма. Але тут спадары Адамовіч і Шукялайць пайшлі на мяне ў наступ: маўляў, недакладна пішаце пра наша супрацоўніцтва з акупантамі. Працавалі пры немцах? Так. Але былі ў апазіцыі да іх, арганізавалі незалежніцкую партыю. Не на Савецкую краіну яна арыентавалася? Безумоўна. І трэб[illegible] гэта гістарычна зразуме[illegible] яе члены толькі што вярну[illegible]ся са сталінскіх турмаў. Таму арыентаваліся на заходніх саюзнікаў. Гавару, што пра незалежніцкі рух у нас мала вядома. Ды і нават Юры Туронак у сваёй апошняй кнізе пра Беларус[illegible] пад нямецкай акупацыяй [illegible], што Беларуская незале[illegible]цкая партыя — тварэнне абвера.

— Нічога падобнага, — парыруе Антон Шукялайць. — Гэтая партыя ёсць тварэнне моладзі. Праз месяц пасля заняцця Беларусі яна зарыентавалася, што з немцамі ёй не па дарозе, што не дадуць яны нам не толькі незалежнасці, але і людскіх правоў. У жніўні 1941 года адбылася першая нелегальная рада. Кіраваў ёю бургамістр Віцебска Усевалад Родзька. Былі на ёй Саковіч, Адамовіч, Савёнак, Матусевіч— усяго каля дваццаці чалавек. Калі Родзька сказаў, што гэта нелегальная зборка, што нам трэба арганізаваць падпольны рух нацыяналістычнага характару, адзін з нас ад страху (а раптам прыйдуць немцы) запёрся ў прыбіральні і праседзеў там увесь час. Але астатнія не спалохаліся і прынялі чатыры пункты дзеяння: незалежнасць Беларусі, дапамога гэбрэям, адмова арганізоўваць для немцаў публічныя дамы, беларусізацыя ўстаноў. У 1942 годзе быў скліканы нелегальны з'езд партыі. Юльян Саковіч, былы грамадовец, прапанаваў даць ёй назву Грамады. Але прайшла прапанова Адамовіча — Беларуская незалежніцкая партыя. Мела яна свой орган — «Бюлетэнь...» Усяго яго выйшла шэсць нумароў. Рэдактарам гэтага органа быў Міхась Рагуля.

Пагаджаюся, што і гэтыя факты трэба ўлічваць, даследуючы гісторыю беларускага супраціўлення ў гады акупацыі.

### 7 КАСТРЫЧНІКА

У параўнанні з Нью-Йоркам, дзе нават у нядзелю не сціхае грукат, у зялёным Рутэрфордзе, забудаваным двухпавярховымі віламі, нязвычна ціха. Чуваць спеў птушак. Вуліцу перабягаюць вавёркі з шэраватай поўсцю. Цяпер разумею, чаму дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель і яго жонка спадарыня Зора выбралі для жыцця гэты невялікі гарадок.

Найперш наша гаворка заходзіць пра Уладзіміра Жылку. Я ведаў, што ў сям'і Кіпеляў збярогся яго славуты «Тэстамэнт», што Яўхім Кіпель, бацька Вітаўта, быў добра знаёмы з паэтам, апублікаваў пра яго ўспаміны. І ўсё ж атрымаць непасрэдную інфармацыю мне здавалася важным. Асабліва ў сувязі з тым, што ў беларускім друку з'явіліся прапановы аб сімвалічным перазахаванні праха Уладзіміра Жылкі. Чаму толькі сімвалічным? Хіба нельга адшукаць магілу?

— Пры старанных пошуках можна, — адказвае на мае пытанні Вітаўт Кіпель. — Для гэтага трэба было б паехаць у горад Уржум Кіраўскай вобласці, дзе Жылка адбываў ссылку і дзе пад вясну 1933 года памёр на кватэры такога ж ссыльнага Сасіновіча, настаўніка са Случчыны. Магільшчыкі там жа збілі з аполак дамавіну і на трэці дзень пахавалі нябожчыка на мясцовых могілках. Спачатку хацелі, паводле загаду, зраўняць пагорак з зямлёй. Але Сасіновіч даў ім на пару літраў гарэлкі, і яны пакінулі пагорак, пагадзіліся, каб паставіць крыж.

— А адкуль гэта стала вядома? Ваша сям'я таксама тады была на Уржуме?

— Не, мае бацькі былі сасланы ў горад Налінск той жа Кіраўскай вобласці. Але плылі туды па Вятцы разам з Жылкам. Дзеля гэтага мусілі купіць дзве лодкі, адну вялікую, а другую маленькую. У маленькую пасадзілі хворага на сухоты Жылку, каб яго ніхто не турбаваў. На вялікай жа плылі Мікола Улашчык, эканаміст Азбукін, Сасіновіч, наша сям'я. Паставілі ветразь, зроблены з пасцілкі, памагалі вёсламі. Да вялікай лодкі прывязалі маленькую, каб не трэба было Жылку веславаць. Удзень плылі, а ўночы распальвалі агонь і адпачывалі. За тыдзень дабраліся да прыстані Мядзведка, дзе нашы шляхі павінны былі на пяць гадоў разысціся ў розныя бакі: Жылка і Сасіновіч скіраваліся ва Уржум, а наша сям'я, Улашчык і Азбукін — у Налінск. Але паміж імі было не так далёка. Жылку ўдалося на тры дні вырвацца да нас, каб пракансультавацца ў лекара. Потым і мы наведалі Жылку ва Уржуме. Хоць пяцігадовым хлапчуком быў я тады, але добра яго памятаю... Што ж тычыцца Жылкавай смерці, то даведаліся мы пра яе з ліста Сасіновіча, адрасаванага бацьку.

— А «Тэстамэнт»?

— «Тэстамэнт» бацька атрымаў праз знаёмых людзей тыдні праз два пасля смерці Жылкі. Перахоўвалі мы яго ў падвойным вечку валізкі. Памятаю, бацька сказаў маці: пільнуй гэтую валізку. Я здзіўляўся яшчэ: чаму пільнаваць? Але пільнаваў... Такім чынам, у тым, што потым «Тэстамэнт» з'явіўся ў друку, ёсць і мая, няхай і ўскосная заслуга. Вядома, несувымерна меншая, чым бацькава... Хацеў бы вам яшчэ сказаць, што трэба каму пад'ехаць у Кіраў, ва Уржум не толькі дзеля таго, каб знайсці магілу Жылкі, але і каб пашукаць яго вершы. Ён раздаваў іх розным людзям, нашчадкам палітычных ссыльных 1863 года.

Потым пераходзім да Максіма Багдановіча, яго будучага юбілею. Спадар Кіпель кажа, што ў аўтара «Вянка» ёсць рэцэнзія на кнігу Віннічэнкі, выяўленая канадскім украінцам Раманам Маланчуком, што беларуская мастачка Ірэна Рагалевіч, якая жыве ў штаце Нью-Джэрсі, рыхтуе да стагоддзя партрэт паэта.

— А колькі ўсяго будзе беларускіх мастакоў на Захадзе? — пытаюся. — Дваццаць набярэцца? Бо згуртаванне «Бацькаўшчына» хацела б зарганізаваць у Мінску іх выставу.

— Калі лічыць усіх, ад Міргановіча да маладых, то куды болей выйдзе. У Францыі— Жаўняровіч, Навумовіч, у Аўстраліі — Леванчук, які зрабіў партрэты Купалы і Коласа, у Нямеччыне — малады Чайкоўскі, у Бельгіі жыў Саўка. Івонка Сурвіла з Канады не толькі сама творыць, але і даследуе іншых, нядаўна напісала артыкул «Чарнобыль у беларускім выяўленчым мастацтве». У Злучаных Штатах вылучаецца Тамара Стагановіч, якая атрымала многа медалёў. Ёсць нават такое аб'яднанне — «Беларускія мастакі штата Нью-Джэрсі». Так што разам да пяцідзесяці чалавек набярэцца...

Да нашай размовы далучаецца спадарыня Зора. Яна паказвае мне дзве скрынкі з падрыхтаванымі ўжо да друку творамі беларускай перакладной літаратуры XV—XVII стагоддзяў.

— Адсюль, ад «Трышчана», «Александрыі», «Атылы», «Бавы», «Аповесці аб Тундале», пачалася беларуская і, шырэй, усходнеславянская літаратура на народнай мове. Для сумеснага выдання гэтых твораў трэба прадумаць каментарыі — указаць першакрыніцы, акрэсліць адступленні і дабаўленні, зробленыя пры вольным пераказ[illegible]

К[illegible]і паказваюць мне зашклёную шафу з беларускімі лялькамі ў нацыянальным убранні, вырабамі з саломкі. Ёсць там і унікальная рэліквія — сярэбраны нож для папер[illegible]нойдзены на папялішчы ад Янкі Купалы. Адзін эмігрант, якога ўжо няма ў жывых, вывез яго на Захад, а потым перадаў Кіпелям. Мяркуючы па фабрычнаму знаку, нож быў выраблены ў Пецярбургу і, відаць, там жа падараваны паэту (ці куплены ім). Потым ляжаў на пісьмовы стале паэта, пра што сведчаць даваенныя здымкі. Якраз з гэтым нажом, кажуць, звязана спроба Купалы закончыць жыццё самагубствам на пачатку сталіншчыны.

Пасля абеду ў наваколлі Рутэрфорда аглядаем беларускія цэрквы ў імя Ефрасінні Полацкай і Жыровіцкай Божай Маці. На могілках пры іх знайшлі апошні прытулак беларускія пісьменнікі Рыгор Крушына, Юрка Віцьбіч, Язэп Гладкі, сястра Антона Луцкевіча Эмілія Шабуня (прабабця Данчыка). Беларусаў тут, у штаце Нью-Джэрсі, многа — і першай, і другой, і трэцяй эміграцыйнай хвалі. Працуюць на хімічных заводах, маюць фермы, дзе вырошчваюць гародніну. Карэнныя амерыканцы цэняць беларусаў за працавітасць і кемлівасць, выбіраюць на розныя пасады.

— Уклад беларусаў у эканамічнае і культурнае развіццё Амерыкі вялікі, — двойчы паўтарыў сёння Вітаўт Кіпель.— Пасля закрыцця Полацкай і іншых езуіцкіх калегій многія іх настаўнікі прыехалі сюды, арганізоўвалі школьніцтва. Або такі факт. Першую гімназію ў Нью-Йорку заснаваў доктар Куртыюс, палачанін родам. Але паколькі ён пісаўся, паводле гістарычнай традыцыі, літуанусам, то мемарыяльную дошку яму тут усталявалі не беларусы, а літоўцы.

— Відаць, славянінам быў, Куртам, — падсумаваў я гаворку.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 51.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# ПАЕДУ З ТАБОЙ...

Нядаўна па аўстралійскім тэлебачанні была паказана маскоўская рок-група. Дзяўчына гэтай групы спявала песню, у якой заклікала амерыканскіх хлопцаў наведаць Маскву і, выконваючы жаданне рускіх дзяўчат, забраць іх у Амерыку, каб жыць там шыкарна, раз'язджаючы ў машынах «Мерседэс».

Аўстралійскі чалавек сказаў бы, што гэтая песня выказвае каласальную наіўнасць, з якой руская моладзь уяўляе сабе заходні лад жыцця. Гэта музычная рок-група павінна была б ведаць, што спад заходняй эканомікі дасягнуў вялікага ўзроўню, і Аўстралія ў гэтых адносінах стаіць вышэй за ЗША: яе эканоміка не так пацярпела. Але ўсё ж можна заўважыць, што вытворчасць і гандаль знізіліся, тысячы людзей страцілі працу, павялічылася колькасць беспрацоўных, расце колькасць прыватных дробных прадпрыемстваў, што закрываюцца, расце колькасць злачынстваў і разлад паміж маладым і старэйшым пакаленнямі.

Пасля палітычных рэформ ва Усходняй Еўропе туды прыйшла заходняя «тэхнічная» цывілізацыя, у якой індывідуум атрымаў поўную свабоду рабіць, што ён хоча. Калі звярнуцца да статыстыкі, то ўбачым, што рост злачыннасці ў Чэха-Славакіі значна павялічыўся. У Аўстраліі чэхі, члены Рускага грамадскага клуба, асцерагаюцца наведваць сваю радзіму, што знаходзіцца ва ўладзе неспакойнага часу і супярэчлівых заходніх уплываў. У Сіднеі ўжо многія гады існуе гэты клуб. Ён з'яўляецца цэнтрам культуры для рускіх, украінцаў, беларусаў, чэхаў і іншых нацый, уключаючы, вядома, карэнных аўстралійцаў.

У часы халоднай вайны пры існуючых тады антысавецкіх настроях у заходнім свеце клубны часопіс «Дружба» пры актыўным садзеянні старшыні клуба і яго жонкі М. і Е. Байдзіных і рэдактара Э. Лявіцкага праводзіў палітыку міру і супрацоўніцтва паміж народамі ўсяго свету пры падтрымцы такіх выданняў Радзімы, як «Голос Родины», «Вісці з Украіны», «Голас Радзімы». Наш клуб з'яўляецца астраўком славянскай культуры.

На наш погляд, рок-музыка павіна адпавядаць культурнай спадчыне рускага народа і адлюстроўваць дэмакратычныя рэформы, што праводзяцца сёння савецкім народам. Рок не павінен існаваць для грубага скажэння жыцця.

**Г. ТОМСАН-ТРЭБІЦКІ.**
Аўстралія.

